**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 16 (993) 18 красавіка 2019 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by

ВОКНЫ, ДЗВЕРЫ ПВХ
ІП Раманчук Д.С. УНП 300018852
Рамы балконныя. Гаражныя вароты
Дзверы ўваходныя і міжпакаёвыя
Абаронныя ралеты
Растэрміноўка да 12 мес. без пярвічнага ўнёска, без даведак і паручыцеляў
Гарантыя якасці
Бясплатная дастаўка па гораду
Гнуткая сістэма зніжак
МТС: (029) 716-28-26; (029) 821-32-52
м-н «Крышталь», вул. Леніна, 114-А

УНП 391050790
МОСКИТНЫЕ СЕТКИ
по Вашим размерам
8 (029) 298-88-43

УСМЕШКА
ok.ru/
vk.com/ysmeshkadeti
МАГАЗІН ДЗІЦЯЧАГА АДЗЕННЯ, АБУТКУ
АД 0+ - 12-13 ГАДОЎ (рост да 164 см)
ДЗІЦЯЧЫЯ ТАВАРЫ, ЦАЦКІ
Абнаўленне асартыменту адзення, цацак для ўсіх узростаў!!!
Рэжым работы: 9.00 – 19.00
Субота 9.00 – 17.00
Нядзеля 9.00 – 16.00
вул. МАСКОЎСКАЯ, 20
тэл. 8-029-519-48-83
8-029-719-48-83
8-02156-5-44-51
ЗАКАЗ І ДАСТАЎКА НА ДОМ
ЗАПРАШАЕМ ЗА ПАКУПКАМІ!
ІП Ляўшыцкі С.І.; УНП 391053881

МОЛОДЕЧНЕНСКИЕ
ОКНА ПВХ
Тел. 8(029) 641-62-94(Velcom)
8(029) 857-35-43 (МТС)
ООО «РЕКОМПЛАСТ» г.Молодечно (УНН 690450197)

СЕМЕНА
Луковицы цветов
Удобрения
Средства защиты растений
Всё для рассады
Спанбонд
Плёнка
и многое другое
магазин «Мастер», ул. Московская, 64
Тел.: 5-55-55
УНП 391530924 ЧТУП «Куршавель»

ОЦИФРОВКА видеоКАССЕТ
черно-белых и цветных ПЛЕНОК,
СЛАЙДОВ с записью на USB
ФОТО 20 ВЕКА % АКЦИЯ
DIGITAL ФОТО ЦЕНТР
ЛЕНИНА,32 ГЛУБОКОЕ
802156- 5-32-32
(33) 666-66-32
(29) 552-63-52
Новая жизнь для Ваших воспоминаний

Частное торговое унитарное предприятие «Линларпрод» УНП 391241477
Кафе «Алекс»
ТОРЖЕСТВЕННЫЙ И ПОМИНАЛЬНЫЙ СТОЛ
с выездом к заказчику.
Ваше помещение.
Наши продукты, услуги повара, обслуживание, доставка.
Т.: +375 29 618-13-99(velc.); +375 29 893-47-97(мтс)

ЧТУП "Тайдик плюс"+375 29 214-34-55 (мтс).
Предварительно позвоните!!!
НАТЯЖНЫЕ ПОТОЛКИ +освещение, карнизы
Ламинат. Линолеум. Плинтуса. Подложка.OSB
Плитка. Камень. Жидкие и фото обои.
Душевые кабинки. Мебель для ванных комнат
Кровля. Водосточка. Соффит. Сайдинг.
Штакетник. Двери. Панели ПВХ и МДФ
Работаем с кредитами на реконструкцию и строительство.
У нас низкие цены! Бесплатная консультация!
Рассрочка платежа. Доставка стройматериалов
Глубокое, ул. Гагарина, 4 рынок "Верас" УНП 391057606

ДВЕРИ ЮРКАС ОКНА
Глубокое, Красноармейская, 36
МТС 8 (029) 844 - 88 - 40; 518 - 62 - 35
город 8 (02156) 2 - 88 - 40
Рассрочка до 36 месяцев
скидки, акции, подарки!
yurkas.by
УНП 391538700

АКЦИИ, СКИДКИ, РАССРОЧКА
окна ПВХ
Межкомнатные двери
Входные двери
Секционные ворота
Шкафы-купе
Жалюзи / Рольшторы
г.Глубокое, ул. Дзержинского 29а
8 (02156) 5-98-40
8 (029) 506-50-10 мтс.
8 (044) 511-50-10 вел.
САМЫЕ ДЕШЁВЫЕ ДУШЕВЫЕ УГОЛКИ
ЧТУП "ОД строй" УНП 390506774

## Ужо можна купіць квіткі на ўсе мерапрыемствы «Славянскага базару ў Віцебску»

**Заключны этап продажу білетаў на XIX Міжнародны фестываль мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску» стартаваў 12 красавіка.**

У гэтым годзе «Славянскі базар» пройдзе з 12 па 18 ліпеня.

Рэалізацыя білетаў на гэты музычны форум пачалася яшчэ ў канцы лютага, але спачатку былі даступныя квіткі канцэртаў, якія праходзяць у Летнім амфітэатры. А цяпер у продаж паступілі квіткі на праекты, якія пройдуць у Нацыянальным акадэмічным драматычным тэатры Якуба Коласа, Віцебскай абласной філармоніі і Беларускім тэатры «Лялька».

Пакуль гэтыя квіткі можна купіць толькі ў касах ГЦК, продаж праз інтэрнэт пачнецца з 15 красавіка.

Квіткі на асноўныя канцэрты фестывалю «Славянскі базар у Віцебску» ўжо можна набываць і праз глабальную сетку.

*ННВ.*

Кампьютерный сервис "Фаворит"
Компьютеры, ноутбуки, оргтехника и аксессуары в РАССРОЧКУ на 12 месяцев, без справок и поручителей!
+375 33 695-88-36 МТС
+375 33 612-51-68 МТС
- Ремонт, настройка и модернизация компьютеров, ноутбуков, оптимизация, чистка.
- Установка любого программного обеспечения.
- Ремонт принтеров и МФУ.
- Заправка, ремонт и восстановление картриджей.
- Наличный и безналичный расчёт.
ИП Котлёнок А.А. УНП 391058112 г. Глубокое, ул. Московская 10, 2 этаж

Дорогие гости! Кафе «Вероника» предлагает:
ГОРЯЧИЕ ОБЕДЫ, ПИЦЦУ, ДОМАШНИЕ БЛИНЫ, СВЕЖУЮ ВЫПЕЧКУ И АРОМАТНЫЙ КОФЕ.
К Вашим услугам: БАНКЕТНЫЙ ЗАЛ ДЛЯ ПРОВЕДЕНИЯ ТОРЖЕСТВЕННЫХ МЕРОПРИЯТИЙ.
В уютной атмосфере нашего кафе Вы можете приятно провести вечер. Отдохнуть после рабочего дня и в выходные дни.
ДЕЛАЕМ БЛЮДА НА ЗАКАЗ (НА ВЫНОС)
Организуем поминальные столы.
ЦЕНЫ ДОСТУПНЫЕ!
Тел.: 8(02156) 2-77-28; +375(33) 688-70-28(МТС)
Глубокский р-н, д.Ореховно, ул.Центральная, 22

Ва ўсіх паштовых аддзяленнях Віцебскай вобласці **можна выпісаць газету "Вольнае Глыбокае" на 1-е паўгоддзе 2019 г.**

ОТЛИЧНАЯ ЦЕНА!
AMI уютный дом
КРАСНАЯ ЦЕНА!
279.-
20.00 x10
Мартин
152x78x87
Еврокнижка 186x77
УНН 290470274
РАССРОЧКА ПЕРВЫЙ ВЗНОС 0%
ДАЛЬШЕ 10 платежей по 10%

ISSN 2077-8023



Рэклама ў газеце «ВГ», мтс 8(029) 813-99-99

## Ушацкі раён

# Канкурэнцыя на карысць спажыўцам

■ Станіслаў Раманчук

**Ва ўмовах моцнай канкурэнцыі цяпер прыходзіцца працаваць работнікам гандлю, бо актыўна развіваецца заказ тавараў праз інтэрнэт-магазін, якіх на Віцебшчыне зарэгістравана ўжо 698.** З ранейшымі падыходамі ў палове раёнаў не вытрымала ае першай сетка спажыўкааперацыі, а яшчэ 5 райпо знаходзяцца ў стадыі банкруцтва і ліквідацыі. Неверагодна, што пры гэтым калектыў Ушацкага райспажыўсаюза не толькі жыве, але за апошні год значна пашырыў тэрыторыю сваёй дзейнасці. Да ранейшых сваіх 52 крам дабавіліся яшчэ 36 сельскіх магазінаў, якія ўзялі на аслугоўванне ў чатырох раёнах, уключаючы Міёрскі. А вось сваімі аўтамагазінамі з навігатарамісталіабслугоўваць жыхароў глыбінкі ў суседняй Полаччыне, там прыйшлося ўзяць у арэнду склады для захоўвання тавараў. У саміх Ушачах з райпо стаў канкураваць буйны супермаркет "Дабраном", узводзяцца яшчэ два гандлёвыя цэнтры, свой фірменны магазін адзення адкрыла швейная фабрыка "Сцяг індустрыялізацыі". Нягледзячы на дадатковыя цяжкасці, мясцовае райпо пад умелым кіраўніцтвам Ліліі Доўгай летась змагло ў ліку нямногіх у Прыдзвінні не толькі захаваць свае абаротныя сродкі, але і спрацаваць з прыбыткам. Па рэалізацыі тавараў уласнай вытворчасці апярэдзілі нават прызнаных лідараў з Пастаў і прадалі шмат кандытарскіх, хлебабулачных вырабаў, саленняў, мясных паўфабрыкатаў. У саміх Ушачах з'явіліся два кафэ сапраўднай італьянскай піцы. Спажыўцам прыйшліся да спадобы і сушы, якія вырабляюць на месцы. Кааператары мадэрнізавалі свой хлебазавод і кандытарскі цэх з аб'ёмам выпечкі звыш тоны прысмакаў у месяц. Вясковыя крамы сталі працаваць па прынцыпе самаабслугоўвання, за кошт прывабных цэн мясцовае райпо застаецца на плыву.

## Талачынскі раён

# Сцеражыся п'янага кіроўцы

■ Чэслаў Якубовіч

**Хоць у Беларусі сталі больш прынцыпова выяўляць і строга караць парушальнікаў правілаў дарожнага руху, але п'яных за рулём транспартных сродкаў меней не становіцца.**

У райцэнтры Талачын супрацоўнікам ДАІ прыйшлося днямі ўдзельнічаць у пагоні за трактарам, які спрабаваў ад іх уцячы. Менавіта дзяжурны экіпаж міліцыі заўважыў на адной з вуліц тэхніку, якая падазрона ехала па дарозе, віляючы з боку ў бок, а руль, відавочна, не слухаўся механізатара. Гэта здагадка неўзабаве пацвердзілася, бо з ранку цвярозы работнік ужо днём выпіў на працы бутэльку віна. Гора-трактарысту такой дозы стала мала і ён паехаў яшчэ за дабаўкай, а сабе ў кампанію ўзяў у кабіну сваю сяброўку. Падчас уцёкаў ад машыны ДАІ трактарыст спрабаваў не даць сябе дагнаць, выязджаў на сустрэчную паласу і перакрываў дарогу. Добра, што вуліца была пустая, інакш яшчэ адно ДТЗ магло адбыцца ў горадзе. Праз некаторы час уцякач зразумеў, што трэба спыніцца, а праверка паказала, што ў крыві механізатара было каля 1,3 праміля алкаголю. За свае паводзіны супраць парушальніка супрацоўнікі міліцыі склалі адразу чатыры адміністрацыйныя пратаколы за небяспечную язду пад градусам і не толькі. Парушальнік заплоціць буйны штраф і за непадпарадкаванне патрабаванням ДАІ спыніцца, перавозку людзей у кабіне, і стварэнне аварыйнай сітуацыі на дарозе. Яму таксама пагражае пазбаўленне правоў на кіраванне транспартнымі сродкамі на тэрмін да 5-ці гадоў. Дарэчы, з надыходам пасяўной міліцыя актывізавала праверкі на сельскіх дарогах і не дарэмна. Напярэдадні здарэння ў Талачыне ўжо ў Віцебскім раёне выявілі раніцай ля вёскі Княжы п'янага трактарыста, які вёз сянаж на ферму. Яго ад работы адхілілі, прыцягнуць да адказнасці і спецыялістаў гаспадаркі за адсутнасць кантролю. Ім трэба цяпер думаць, каго пасадзіць за рычагі замест п'янага кіроўцы.

## Пастаўскі раён

# Пабудуем – будзем жыць

■ Кастусь Александровіч

**Апошнім часам у розных кутках краіны ўзніклі сур'ёзныя цяжкасці ў будаўнікоў з-за недахопу сродкаў на ўзвядзенне жылля і іншых аб'ектаў.** Пэўныя праблемы былі і ў Пастаўскім раёне, але іх пераадолелі і асноўная мясцовая бударганізацыя "Рассвет Пастаўскі" не прастойвае, загружана заказамі на бліжэйшыя гады. У мінулым годзе зноў справіліся з аб'ёмамі жыллёвага будаўніцтва, акрамя 40-кватэрнага жылога дома ў райцэнтры завяршылі ўзвядзенне сапраўднага жылога гарадка ў вёсцы Коўзаны. Іх там пачыналі ў далёкім 1986 годзе, на доўгі час замарозілі і сюды вярнуліся амаль праз 30 гадоў. Цяпер паблізу сучаснай рабатызаванай фермы здалі ўсе восем 4-кватэрных дамоў з усімі зручнасцямі і прыродным газам. Сёлета ў чэрвені паблізу райцэнтра на цэнтральнай сядзібе сельгаспрадпрыемства "Хацілы-агра" працаўнікі другой вядучай гаспадаркі краю атрымаюць ключы ад другога па ліку 12-кватэрнага жылога дома. Першы падобны дом з усімі зручнасцямі гаспадарка ўзвяла два гады назад. Ён упрыгожыць гэты аграгарадок, куды імкнуцца патрапіць многія, бо ў мясцовых працаўнікоў – найвышэйшая на Віцебшчыне сярэдняя заработная плата. Спецыялізаваная насенневодчая гаспадарка паспяхова развіваеі галінужывёлагадоўлі. У Хацілах вырашылі пашырыць свой вядучы малочнатаварны комплекс "Волахі" з даярамі-робатамі і побач з ім узвесці яшчэ адну сучасную ферму з даільнай залай і іншай інфраструктурай на тысячу галоў дойнага статку. У пастаўскіх будаўнікоў працы хапае, бо мясцовы малочны завод пачаў будаўніцтва яшчэ больш значнага аб'екта, малочнага комплексу на 2500 галоў. У райцэнтры павінны пабудаваць таксама і дзіцячы сад у адным з жылых мікраараёнаў.

# ХТО Б НІ СТАЎ НАСТУПНЫМ ПРЭЗІДЭНТАМ У КІЕВЕ, АЛЕ ПАГАРШЭННЯ АДНОСІН ПАМІЖ БЕЛАРУССЮ І УКРАІНАЙ БЫЦЬ НЕ ПАВІННА

■ Аляксандр Цішкевіч.

**Выбары ж ва Украіне выклікаюць толькі павагу да суседзяў, у іх чэснасці сумненняў няма, бо ў кожнай камісіі былі заяўлены прадстаўнікі ад дзеючых кандыдаў. А сістэма падліку канчатковых вынікаў выбараў у іх празрыстая, да чаго нам трэба яшчэ імкнуцца.**

У гэтым годзе большасць беларусаў у паўсядзённым жыцці практычна і не заўважылі прыдуманае раней зверху свята з гучнай назвай – Дзень яднання народаў Беларусі і Расіі. Па інерцыі, каму трэба, зноў нагадалі аб "шматвекавым братэрстве", "трывалых славянскіх каранях", але цяпер паміж саюзнікамі больш іскрыць. Спрэчкі і рознагалоссі ідуць па розных пытаннях, вось і беларускі пасол У. Сямашка падліў масла ў агонь і заявіў як адрэзаў у пачатку красавіка, што менавіта Расія сваім падатковым манеўрам парушае дагавор аб стварэнні ЕАЭС. На расійскіх прасторах больш паловы нашых суседзяў нават і не падазраюць пра існаванне міфічнай Саюзнай дзяржавы.

Увогуле расіян турбуюць іншыя праблемы, жыць то з кожным годам становіцца цяжэй пасля "Крымнаша", а ў дадатак пятая частка іх кватэр і дамоў не мае доступу да важнай прыкметы цывілізацыі, звычайнай каналізацыі. Беларусаў больш цікавілі ў гэтыя дні новыя ракіроўкі з кіраўнікамі розных рангаў на радзіме нязменнага беларускага лідара – на Магілёўшчыне. Адбылося гэта праз пяць дзён пасля рэзкіх разносаў мясцовага начальства і кіраўніцтва айчыннага АПК з-за абасраных кароў на паказальнай ферме. Прэзідэнт наш яшчэ ўстрывожыўся дрэннай падрыхтоўкай гаспадарак да веснавой сяўбы, а вось у Крамлі таксама не парадавалі і пацвердзілі, што пытанне выдзялення Беларусі 600 млн. долараў чарговага крэдыту канчаткова яшчэ не вырашана.

Між тым, глава беларускага ЦВК Л. Ярмошына заявіла, што адмова Лукашэнкі балатавацца далей у прэзідэнты стане для яе шокам. Глава нашай дзяржавы прагназаваў, што ў суседняй Украіне перамогу на выбарах атрымае П. Парашэнка. Але пасля першага тура там яўным лідарам гонкі стаў камічны акцёр, кіраўнік Студыі "Квартал 95" з яўрэйскімі каранямі Уладзімір Зяленскі. Больш трэці украінцаў аддалі за даволі маладога чалавека свае галасы. Герой кінасерыялаў не выключана, што ў выніку не зойме прэзідэнцкае крэсла, бо, каб кіраваць вялікай 45-мільённай краінай, яму не хапае многага: ведаў, вопыту, палітычнага ўмення і надзейных паплечнікаў.

Прайшоўшыя ва Украіне выбары нагадалі нам пра падзеі чвэрць стагоддзя назад, калі беларусы летам 1994 года выбралі кіраваць дзяржавай тагачаснага маладога дэпутата, які ведаў, як "запусціць заводы, адвесці народ ад прорвы і разабрацца з казнакрадамі". Пакуль жа відавочна, што зараз у нашых паўднёвых суседзяў праходзяць нармальныя дэмакратычныя выбары, што б там ні гаварыла пра іх вынікі зноў іх прайграўшая украінская "жалезная ледзі" Ю. Цімашэнка і не блявузгалі пра масавыя фальсіфікацыі прадажныя расійскія СМІ. Апошніх можна зразумець, бо іх гаспадары ў Крамлі вельмі хацелі, каб іх галоўны вораг П. Парашэнка праваліўся поўнасцю, бо летась рэйтынг яго падтрымкі ў грамадстве быў меней 10 %, па папулярнасці ён быў толькі пятым.

Аднак зноў у Маскве пралічыліся, украінскі дзеючы лідар, за якога галасавалі патрыятычна настроеныя грамадзяне, вярнуўся ў прэзідэнцкую гонку і развівае на далейшы поспех, збіраўся прадэманстраваць свае лепшыя якасці ў тэледэбатах у прамым эфіры. За імі назіраць будзе цікава, бо ва Украіне яшчэ далёка не ўсё вырашана і, магчыма, перамога той кандыдат, які адзін агучвае і ажыццяўляе на практыцы свой галоўны лозунг "Прэч ад Масквы!". МЗС Украіны ўжо заявіла, што пры любым зыходзе другога тура прэзідэнцкіх выбараў іх краіна прадоўжыць стратэгічны курс на ўступленне ў Еўрасаюз і НАТО.

Нас турбуюць таксама, як будуць развівацца далей беларуска-украінскія адносіны. Зразумела, што з Пятром Парашэнкам і надалей у Мінска з Кіевам захаваюцца добрыя цёплыя стасункі, узаемны давер. Знаходзіць агульную мову з непрадказальным У. Зяленскім у выпадку яго трыумфу будзе больш складана, але перажываць асабліва не трэба, бо ўрады Беларусі і Украіны зацікаўлены ў захаванні ўзаемакарыснай дынамікі нашага супрацоўніцтва. З іншага боку засмучае, што ў нас з'яўлення свайго Зяленскага чакаць не выпадае, бо ў Беларусі пабудавана адладжаная сістэма аднаасобнай улады, якая проста не пацерпіць, каб дзе-небудзь з'явіўся нечаканы моцны палітык з прывабнымі лозунгамі.

Раскруціцца ў нас такім людзям проста не дадуць, хоць многія маглі б сімпатызаваць новым тварам у палітыцы, куды лезці проста небяспечна, як пацвярджае жыццёвы вопыт экс-рэктара БДУ А. Казуліна і іншых, хто заяўляў аб сваіх прэзідэнцкіх амбіцыях. Даволі папулярная была новая асоба і жанчына Т. Караткевіч, за яе і я прагаласаваў у 2015 годзе. Яе апусцілі на месца, у парламент яна не прайшла, хоць і не выказвала радыкальных думак. Выбары ж ва Украіне выклікаюць толькі павагу да суседзяў, у іх чэснасці сумненняў няма, бо ў кожнай камісіі былі заяўлены прадстаўнікі ад дзеючых кандыдаў. А сістэма падліку канчатковых вынікаў выбараў у іх празрыстая, да чаго нам трэба яшчэ імкнуцца. Пры ўсіх цяжкасцях ва украінцаў з'явіліся моцная армія, свая царква, бязвізавы рэжым з ЕС, нарэшце, свабода слова і пачаліся рэформы, пакрыху расце і эканоміка, а гэта – галоўнае.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 18.04.19 | | | | Пятніца 19.04.19 | | | | Субота 20.04.19 | | | | Нядзеля 21.04.19 | | | | Пн.22 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +2 | +7 | +13 | +7 | +2 | +7 | +14 | +9 | +6 | +9 | +10 | +7 | +4 | +7 | +9 | +4 | +4 |
| Ціск | 760 | 760 | 760 | 760 | 761 | 762 | 761 | 760 | 758 | 758 | 757 | 755 | 754 | 754 | 754 | 753 | 752 |
| Вецер м/сек | 2 Пн-У | 3 Пн-З | 6 Пн | 4 Пн-У | 2 Пн-У | 1 Пн | 3 Пн-З | 2 Пн-З | 3 Пн-З | 4 Пн | 5 Пн | 2 Пн | 2 Пн-У | 4 У | 5 У | 3 У | 4 У |
| Вільготнасць | 90 | 76 | 44 | 60 | 85 | 72 | 42 | 69 | 85 | 77 | 69 | 74 | 85 | 68 | 44 | 77 | 95 |

## Дзень за днём

**Беларусь атрымала ад Расіі прапановы па паглыбленні інтэграцыі. А. Лукашэнка падзымаў з пасад чыноўнікаў на Магілёўшчыне. Яго паездка ў Шклоўскі раён скончылася скандалам. Два месяцы запар зніжалася сярэдняя зарплата беларусаў. Лягсасы пачалі пасадкі 33 тысяч га маладога лесу. За суткі 5 беларусаў загінулі на пажарах. Жыхароў Літвы пачалі рыхтаваць да магчымай аварыі на БелАЭС. Ва ўнутраных войсках МУС Беларусі дазволілі мабільныя тэлефоны. Суседзі Беларусі перайшлі на летні час, у ЕС перавод стрэлак закончаць у 2021 годзе. На Маскоўскім кінафестывалі пакажуць беларускі фільм "Сашына пекла".**

# Важнейшыя навіны свету

**Англія.** Саміт 27 лідараў дзяржаў ЕС адклаў выхад Брытаніі з Еўрасаюза, але толькі на кароткі тэрмін, выхад жа без пагаднення скароціць ВУП краіны на 5-8 % да 2029 года.

**Венесуэла.** У аэрапорт Каракаса прыбылі два рускія ваенныя самалёты Іл-62 і Ан-124 з 35 тонамі груза і каля ста ваеннымі на чале з начальнікам штаба Сухапутных войск РФ.

**ЗША**. Дарадца Д. Трампа па нацбяспецы Д. Болтан папярэдзіў, што ЗША не пацерпяць умяшання замежных ваенных у Венесуэле для падтрымкі карумпаванай дыктатуры.

**Сірыя.** Міністэрства абароны Расіі прызнала гібель яшчэ трох сваіх афіцэраў, якія патрапілі ў засаду ў правінцыі Дэйр-эз-Зор, у краіне пачалася партызанская вайна.

**Францыя**. Еўрапарламент правёў дэбаты па анексіі Крыма Расіяй і ўзмацненні ціску на РФ, еўракамісар Й. Хан заявіў, што Еўропа ніколі гэта не прызнае, будзе за Украіну.

**Расія.** Апасаючыся новага фіяска восенню на выбарах, Крэмль змяніў у рэгіёнах РФ ужо 14 губернатараў, з іх адразу 5 – на працягу тыдня, але рэйтынг пуцінскай улады падае.

**Ізраіль.** Савет ААН па правах чалавека асудзіў дзеянні ізраільцян у Газе, а арабскія краіны – планы прэзідэнта ЗША па прызнанні суверэнітэта Ізраіля па Галанскіх вышынях.

**Галандыя.** Суд у Гаазе адхіліў апеляцыю экслідара баснійскіх сербаў Р. Караджыча, за генацыд мусульман у Срэбраніцы яму прызначылі пажыццёвы тэрмін зняволення.

**Мексіка.** Міністэрства абароны ЗША выдзеліла 1 млрд. долараў на ўзвядзенне адрэзка сцяны даўжынёй 91 км на мексіканскай граніцы ў раёне Эль-Пасо ў Тэхасе.

**Сірыя.** Прэзідэнт ЗША Д. Трамп заявіў, што краіна цалкам вызвалена ад тэрарыстаў "Ісламскай дзяржавы", у Расіі аднесліся да такой заявы скептычна.

**Расія.** Агенцтва Bloomberg паведаміла, што ў Адміністрацыі прэзідэнта РФ разглядаецца варыянт аб'яднання Расіі і Беларусі, каб Пуцін узначаліў новую дзяржаву, захаваў сваю ўладу.

**Ізраіль.** Пасля разбурэння ракетай руху ХАМАС жылога дома ў Тэль-Авіве армія краіны нанесла серыю моцных паветраных удараў па 15 аб'ектах баевікоў у сектары Газа.

**ФРГ.** Кіраўніцтва аўтакампаніі Porsche вырашыла ў красавіку выдаць зноў дадатковыя прэміі кожнаму з 25 тысяч супрацоўнікаў у суме 9700 еўра за старанне ў рабоце летась.

**Кітай.** У выніку выбуху каля 15 гадзін дня на хімічным заводзе "Цзянсу Цяньцзяі" ў правінцыі Цзянсу загінула 47 чалавек, яшчэ 90 рабочых атрымалі цяжкія раненні.

**ФРГ.** У краіне зафіксавалі рэкордны з 2011 года рост зарплат, у былой ГДР сталі немцы зарабляць звыш 40 тысяч еўра ў год, у найбольш багатых землях – да 56 тысяч брутта.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Баранавічы.** Выступаючы перад актывам горада А. Лукашэнка зноў прыгразіў чыноўнікам гучнымі адстаўкамі, заявіў, што не паказчыкі патрэбныя краіне, а грошы.

**Мінск.** Драматызм гісторыі ў тым, як заявіў палітолаг А. Класкоўскі, што нашу краіну без асаблівага супраціўлення можа прыдбаць знешняя сіла, у асобных ужо цякуць слюнькі.

**Шклоў.** Крайне незадаволеным застаўся А. Лукашэнка станам існуючых спраў у АПК Магілёўшчыны, запатрабаваў развіваць новыя напрамкі ў сельскай гаспадарцы.

**Гродна.** Да 2 Еўрагульняў на беларуска-польскай граніцы завершаць мадэрнізацыю пункта пропуску "Брузгі" коштам звыш 4 млн. USD, у ім будзе 7 каналаў на ўезд.

**Мінск.** На сустрэчы з эканамістам Я. Раманчуком пасол Расіі заявіў, што ні Пуцін, ні ніхто іншы ў РФ суверэнітэт Беларусі пад сумненне не ставіць, не хапае нам рынкавых адносін.

**Гомель.** Выкрадзены тут ФСБ Расіі малады ўкраінец Павел Грыб атрымаў 6 гадоў па рашэнні ваеннага суда ў Растове-на Доне, МЗС выказала пратэст РФ па ілжывую справу.

**Хатынь.** Падчас наведвання мемарыяльнага комплексу глава МЗС Беларусі У. Макей пацвердзіў, што тэма Пуціна на чале Саюзнай дзяржавы абмяркоўвалася, але мімаходзь.

**Мінск.** Дэпутат парламента Г. Канапацкая прапанавала правесці рэферэндум, каб адмовіцца ад Саюзнай дзяржавы з Расіяй, бо дзейнічае эканамічны саюз ЕАЭС.

**Астравец.** На ўзводзімай БелАЭС летась правялі 203 праверкі аховы працы, выявілі 1200 розных парушэнняў, падчас работ там загінуў адзін рабочых, 3 былі цяжка паранены.

**Печы.** Супраць салдата тэрміновай службы з Ельчыцкага раёна распачалі крымінальную справу са самавольнае пакіданне часці, перад гэтым ён з'ездзіў дамоў у звальненне.

**Гродна.** На ўсім працягу трасы М6/Е28 Мінск-Гродна-граніца Польшчы пасля завяршэння яе рэканструкцыі ўвядуць плату за праезд транспарту, але будуць 4 паласы руху.

**Клімавічы.** Супраць двух навучэнак мясцовага каледжа ва ўзросце 17 і 18 гадоў распачалі крымінальную справу за збіццё на падпітку па чарзе 8-мі суседак па інтэрнаце ўстановы.

**Лельчыцы.** У вёсцы Стадолічы паблізу райцэнтра п'яны рабочы з Брэстчыны ўгнаў машыну шэфа і заснуў у ёй, а машына загарэлася, з апёкамі небараку шпіталізавалі.

**Гомель**. Праваслаўны епіскап Стэфан вярнуў мясцоваму касцёлу крыж, які невядомы ўкраў з храма і перадаў жаночаму праваслаўнаму манастыру ў Добрушскім раёне.

**Буда-Кашалёва**. Чатыры маладыя хлопцы праламалі сцяну зернясклада ААТ "Рогінь", скралі 11 мяшкоў камбікорму на продаж, але вартаўнік выклікаў міліцыю, спыніў налёт.

# Бюджэтнікам будуць падвышаць заробкі за кошт звольненых і эканоміі сродкаў



■ **FINANCE.TUT.BY**

**Бюджэтнікам будуць падымаць заробкі за кошт зэканомленых арганізацыямі сродкаў. Гэта прадугледжана адпаведнай пастановай Савета міністраў ад 10 красавіка 2019 года. Кіраўнікі бюджэтных арганізацый цяпер могуць усталёўваць павышаючыя каэфіцыенты да тарыфных ставак работнікаў.**

Згодна з дакументам, цяпер кіраўнікі бюджэтных арганізацый змогуць усталёўваць павышаючыя каэфіцыенты да тарыфных акладаў работнікаў і выкарыстоўваць зэканомленыя грошы для павышэння зарплаты работнікам.

У пастанове таксама прапісана, якія менавіта зэканомленыя сродкі можна будзе пускаць на павышэнне заробкаў.

«Павышаючыя каэфіцыенты да тарыфнай стаўкі для разліку заработнай платы ўсталёўваюцца ў 2019 годзе за кошт сродкаў рэспубліканскага і мясцовых бюджэтаў, вызваленых у выніку рэалізацыі мерапрыемстваў па аптымізацыі структуры і колькасці работнікаў бюджэтных арганізацый і іншых арганізацый, а таксама эканоміі іншых бюджэтных сродкаў, прадугледжаных на функцыянаванне бюджэтных арганізацый і іншых арганізацый, у межах сродкаў па бюджэтнай каштарысе выдаткаў», - напісана ў дакументце. Пры гэтым у зэканомленыя грошы не залічваюцца выдаткі на аплату камунальных паслуг і капітальных выдаткаў.

Канкрэтныя памеры павышальных каэфіцыентаў усталёўваюцца кіраўніком бюджэтнай арганізацыі.

Пастанова прынята ў адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь ад 30 снежня 2018 года «Аб рэспубліканскім бюджэце на 2019 год».

Пастанова ўступіць у сілу пасля яго афіцыйнага апублікавання.

Па прагнозах чыноўнікаў, сярэдняя зарплата бюджэтнікаў вырасце ў 2019 годзе да 810 рублёў. Таксама ў гэтым годзе плануецца выхад на сярэдні заробак у бюджэтных арганізацыях на ўзроўні 80% ад сярэдняй па краіне. Па выніках 2018 года гэты паказчык склаў 77%.

Акрамя таго, з 2020 года для бюджэтнікаў увядуць новую схему аплаты працы. Тарыфную стаўку першага разраду збіраюцца замяніць базавай стаўкай. Апошнюю маюць намер павязваць да бюджэту пражытковага мінімуму. Улады абяцаюць, што заробкі бюджэтнікаў не знізяцца з-за запланаваных змен.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Пасля зімы 90 % рэспубліканскіх дарог і гарадскіх вуліц вобласці сталі моцна разбітыя, іх зношанасць – найбольшая ў Беларусі, паўсюдна патрабуецца рамонт.

**Орша.** Са спазненнем на паўгадзіны дызель-поезд адсюль прыбыў у Магілёў, яго двойчы спынялі на прыпынках, каб прапусціць картэж машын прэзідэнта Беларусі.

**Глыбокае.** Гаспадаркі мясцовага агрохолдынгу першымі ў вобласці пачалі яравую сяўбу зерневых, у сваім раёне засеяць 20 тысяч гектараў і яшчэ 5 тысяч – на Браслаўшчыне.

**Мёры.** ЕС падтрымаў сумесны праект мясцовых улад, ГА "Ахова птушак Бацькаўшчыны" і Латвійскага сельскага форуму, выдзеліў 1 млн. еўра на развіццё аграэкатурызму ў раёне.

**Ушачы.** Пасля п'янкі двое маладых жыхароў вёскі Арэхаўна вырашылі ноччу зайсці ў госці да суседкі, калі іх туды не пусцілі, адзін з хуліганаў закідаў хату петардамі.

**Браслаў.** На тэрыторыі нацпарка "Браслаўскія азёры" вырашылі змяніць фармат адпачынку на звыш 60 стаянках для турыстаў, там установяць міні-летнія домікі.

**Талачын.** Услед за прададзеным за 760 тысяч рублёў за даўгі гандлёвым цэнтрам райпо на аўкцыёне за 277 тысяч пайшоў з малатка ўніверсам "Удобный", на яго было 11 жадаючых.

**Верхнядзвінск.** На пункце пропуску "Бігосава" мытнікі выявілі ў фуры пад кіраваннем 52-гадовага грамадзяніна Літвы 140 кг наркотыкаў гашышу і экстазі на 2,8 млн. долараў.

**Паставы.** У зальцы ля кафэ "Церамок" міліцыя знайшла труп 41-гадовага мужчыны без прыкмет гвалтоўнай смерці, яго шукалі суткі. Мужчына трагічна загінуў, хутчэй усяго, выпадкова.

**Наваполацк.** Супраць 31-гадовага гараджаніна склалі два адміністрацыйныя пратаколы за лаянку і парушэнне правіл утрымання жывёл, яго два сабакі без намордніка загрызлі ката.

**Ушачы.** У 3 гадзіны ночы аператыўная група міліцыі затрымала раней неаднаразова судзімага жыхара Гарадоцкага раёна з абрэзам пры спробе абрабаваць магазін вёскі Сарочына.

**Полацк.** Раніцай на павароце вадзіцель аўтобуса не ўступіў дарогу іншамарцы, абодва кіроўцы не пацярпелі, але была паранена 46-гадовая пасажырка BMV X5.

**Віцебск.** У абласным цэнтры адкрыліся яшчэ два магазіны нізкіх цэн "99 капеек", пасля вывучэння попыту ў іх з'явіліся цыгарэты, алкаголь, малочныя прадукты, садавіна.

**Глыбокае.** З-за неасцярожнасці пры курэнні пад раніцу ў 6.30 у вёсцы Мярэцкія на пажары трагічна загінулі 85-гадовая гаспадыня дома і яе 57-гадовы сын, пажар быў 1 у вобласці.

**Талачын.** Пры спробе самастойна патушыць раніцай пажар у сваім доме ў вёсцы Загароддзе апёкі 2-3 ступені (30 % цела) атрымаў 55-гадовы гаспадар, згарэла і яго аўто.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Расія забараніла ўвоз яблыкаў і груш з Беларусі

**Рассельгаснагляд з 12 красавіка забараняе ўвоз яблыкаў і груш з Беларусі, бо не выключае, што пад выглядам беларускай прадукцыі ў Расію можа пастаўляцца прадукцыя з краін, у дачыненні да якіх уведзены харчовыя санкцыі. Пра гэта паведаміў «Інтэрфаксу» кіраўнік Рассельгаснагляду Сяргей Данкверт.**

Паводле яго слоў, з 1 па 7 красавіка на мяжы было затрымана 36 машын з гэтай прадукцыяй без дакументаў. Ён падкрэсліў, што садавіну спрабавалі завезці незаконна.

Акрамя таго, затрымана 66 машын з яблыкамі і грушамі, якія фітасанітарная служба Беларусі сертыфікавала як садавіна беларускага паходжання, аднак, як нагадаў Данкверт, у мінулым годзе «беларускія калегі нам заяўлялі, што айчынныя яблыкі і грушы ў іх скончыліся яшчэ ў лютым».

*nn.by*



# Літва абяцае кожнаму жыхару 1000 еўра за адмову ад старога аўто

**Міністр навакольнага асяроддзя Літвы паведаміў, што пасля зацвярджэння плана скарачэння забруджвальных выкідаў жыхарам за адмову ад старога аўтамабіля можна будзе выплачваць 1000 еўра ў рамках заахвочвання куплі новага аўто, паведамляе Delfi.**

«Трэба дапамагчы людзям адмовіцца, і мы лічым, што гэтая матывуючая лічба павінна быць каля тысячы еўра, пры адмове ад старога аўтамабіля і куплі новага», — сказаў міністр Кястуціс Мажэйка.

У разгледжаных кабінетам міністраў Літвы ў сераду мерапрыемствах па скарачэнні забруджвальных выкідаў на такое фінансаванне заахвочванне прадугледжана вылучыць з дзяржбюджэту 30 млн еўра.

Жыхары, якія адмовіліся ад забруджвальных аўтамабіляў, таксама змогуць атрымаць ільготы на грамадскі транспарт.

*nn.by*




# Фізічны пуск першага энергаблока БелАЭС запланаваны на восень

**Фізічны пуск першага энергаблока Беларускай АЭС запланаваны на восень 2019 года, паведаміў журналістам намеснік міністра энергетыкі Беларусі Міхаіл Міхадзюк сёння на форуме "Атамэкспа" ў Сочы, перадае карэспандэнт БЕЛТА.**

*"Мы да фізпуску ідзём, рыхтуемся, але яшчэ трэба прайсці шэраг этапаў. Мы знаходзімся на этапе індывідуальнага апрабавання абсталявання, наступны этап - гідравыпрабаванні, цыркпрамыўка, халодная і гарачая абкатка. Пасля гэтага рэвізія абсталявання. Калі на стадыі абкатак не будзе сур'ёзных форс-мажораў, восенню мы павінны пайсці на фізічны пуск*, – расказаў Міхаіл Міхадзюк. – *Прыкладаем усе намаганні, каб у гэтым годзе блок уключыць у работу".*

Што датычыцца завозу на пляцоўку Беларускай АЭС ядзернага паліва, то намеснік міністра падкрэсліў, што гэта не самамэта. "Калі завязём паліва, у нас зусім іншы рэжым работ на станцыі - у плане забеспячэння фізічнай аховы і іншага. Таму мы з гэтай справай не спяшаемся, каб не абмяжоўваць рэжым работы будаўніча-мантажных арганізацый", – растлумачыў ён. У адпаведнасці з планам завоз ядзернага паліва павінен адбыцца за месяц да фізічнага пуску.

Беларуская АЭС з двума рэактарамі ВВЭР-1200 сумарнай магутнасцю 2400 МВт будуецца па расійскім праекце паблізу Астраўца (Гродзенская вобласць). Першы энергаблок плануецца ўвесці ў эксплуатацыю ў 2019 годзе, другі – у 2020 годзе. Партыя ядзернага паліва для пачатковай загрузкі ў рэактар першага энергаблока БелАЭС выраблена на Новасібірскім заводзе хімканцэнтратаў.,

*БелТА.*

# Суд пакараў Змітра Лупача штрафам 40 базавых велічынь

**Агулам па дзвюх адміністрацыйных справах на 40 базавых велічыняў аштрафаваў Глыбоцкі раённы суд незалежнага журналіста Змітра Лупача.**

Працэс вёў суддзя Станіслаў Трапук. Змітра судзілі па частцы 2 артыкула 22.9 КоАП (незаконны выраб і распаўсюд прадукцыі СМІ) і па частцы 1 артыкула 23.34 (парушэнне парадку арганізацыі або правядзення масавых мерапрыемстваў). У першым выпадку журналіста судзілі за сюжэт на тэлеканале "Белсат", у другім – за тое, што пры адзначэнні Дня Волі ўзняў бел-чырвона-белы сцяг. Як напісалі міліцыянты ў пратаколе, такім чынам ён публічна выказаў свае палітычныя інтарэсы ў сувязі з гадавінай дня ўтварэння БНР. Суддзя Станіслаў Трапук напачатку агучыў, што па першай справе Змітра штрафуе на 36 базавых велічыняў, па другой – на 10, а ў сукупнасці шляхам частковага складання будзе 40 базавых велічыняў, што складае 1020 рублёў.

Зміцер Лупач каментуе зніжку ад суддзі наступным чынам: – *Можа, усё ж асоба суддзі нешта значыць, бо, наколькі я ведаю, пра яго ў нас заўсёды добра адгукаліся, самы паважаны з глыбоцкіх суддзяў. Ён доўгі час быў старшынём суда ў Глыбокім. Магчыма, і таму. Я ведаю, што яго прызначылі, калі мяне памяць не падманвае, у 1993 годзе старшынём суда. І якраз пад гэтым сцягам ён судзіў людзей.*

Напрыканцы судовага пасяджэння суддзя Станіслаў Трапук сказаў, што ў Глыбоцкі РАУС будзе накіраваны ліст наконт недахопаў, якія былі выяўленыя пры разглядзе справы. А распачалі справы на журналіста Змітра Лупача і перадалі іх у суд лейтэнант міліцыі Віктар Гірын і капітан міліцыі, старшы інспектар па дазвольнай рабоце аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі Глыбоцкага РАУС Сяргей Цырбан. Ён, дарэчы, быў у якасці сведкі разам з курсантам міліцыі Аляксеем Юргелем па справе, якую распачаў на журналіста лейтэнант глыбоцкай міліцыі Віктар Гірын. Падчас адзначэння Дня Волі глыбоцкімі актывісткамі Сяргей Цырбан разам з іншымі міліцыянтамі здымаў іх на відэакамеру.

*Паводле Беларускае Радыё*




# Следам за яблыкамі Расія можа забараніць увоз з Беларусі клубніцаў і шампіньёнаў

**Рассельгаснагляд не выключае ўвядзення забароны на ўвоз клубніцаў, шампіньёнаў і пекінскай капусты з Беларусі ў Расію. Пра гэта ТАСС паведаміў кіраўнік ведамства Сяргей Данкверт.**

«Мы далей разглядаем іншыя віды прадукцыі, нехарактэрныя для Беларусі. Мы вымушаны такія меры прадпрымаць. І далей разглядаем клубніцы, пекінскую капусту, шампіньёны», – сказаў ён.

*nn.by*

# У беларускіх школах хочуць увесці штат ахоўнікаў і пасаду намесніка дырэктара па бяспецы

**У Беларусі прапрацоўваецца магчымасць увядзення ва ўстановах адукацыі штата ахоўнікаў і пасады намесніка дырэктара па бяспецы.**

Пра гэта паведаміў начальнік галоўнага ўпраўлення выхаваўчай работы і маладзёжнай палітыкі Міністэрства адукацыі Эдуард Тамільчык, паведамляе БелТА.

«Дадаткова з Мінфінам, Мінпрацы і сацабароны прапрацоўваюцца пытанні аб увядзенні ва ўстановах агульнай сярэдняй адукацыі штатнай колькасці ахоўнікаў (дадаткова да вартаўнікоў), а таксама пасады намесніка дырэктара па бяспецы. Гэтае пытанне можа быць вырашана ўжо да новага навучальнага года», — сказаў Эдуард Тамільчык.

Ён удакладніў, што гэтыя супрацоўнікі зусім не павінны быць работнікамі міліцыі, але для іх абавязкова будзе распрацоўвацца пералік функцыянальных абавязкаў і патрабаванняў.

*БелТА.*

# Стала вядома, як вырастуць заробкі медыкам

**Намеснік міністра аховы здароўя Вячаслаў Шыла ў артыкуле, апублікаваным у выданні «Медыцынскі веснік», распавёў, наколькі вырастуць з 1 мая заробкі медыкаў.**

Тарыфная стаўка першага разраду з 1 мая павышаецца да 36,4 рубля, што замацавана пастановай Саўміна. Гэтая мера дазволіць павялічыць сярэдні памер налічанага заробку на 20—30 рублёў у разліку на адну пасаду, на 27—42 рублі з улікам выканання дадатковай працы, у сярэдніх медработнікаў — на 10—16 рублёў у разліку на адну пасаду, на 13—20 рублёў з улікам выканання дадатковай працы, паведамляе "Звязда".

*nn.by*

# Франак Вячорка навучыў адвучыцца жыць мінулымі стэрэатыпамі. Трэба зразумець, што сёння іншая рэчаіснасць

■ Уладзімір Скрабатун

**Сённяшняя рэчаіснасць вельмі адрозная ад той, што была 25 гадоў таму. Тады не было інтэрнэту, і толькі нехта чуў, што ён некалі будзе. Як толькі інтэрнэт з'явіўся, адразу пачалі развівацца сацыяльныя сеткі.**

Сучасныя дзеці пачынаюць карыстацца інтэрнэтам ужо з 5-гадовага ўзросту. Не вылазяць з сацыяльных сетак і бабулі, і дзядулі, якім далёка за 60, а то і за 70 год. Самыя вядомыя сацыяльныя сеткі: Facebook, YouTube, WhatsApp, Instagram, Twitter, ВКонтакте, Одноклассники. Кожная з іх мае шэраг пераваг і папулярная ў пэўным асяроддзі. Краіна, узрост, кола інтарэсаў таксама аказвае ўплыў на перавагі той ці іншай сацыяльнай сеткі і іх выбар.

Складзены ТОП-5 сацсетак Беларусі. Самай папулярнай сталася «ВКонтакте». Яе, якую найбольш выкарыстоўваюць, назвала 90% апытаных беларусаў. На радок ніжэй апынуўся сэрвіс YouTube (85%). На трэцім радку – «Аднакласнікі» (60%), потым ідуць Instagram (59%) і Facebook (55%).

Паводле нядаўняга даследавання большасць беларускіх карыстальнікаў (63%) лічаць, што сучасныя дадаткі і сэрвісы значна спрашчаюць жыццё, і актыўна карыстаюцца сацсеткамі і іншымі онлайн-паслугамі: ад інтэрнэт-банкінгу (76%) і хмарных сэрвісаў для захоўвання дадзеных (59%) да онлайн-гульняў (49%).

Паразмаўляць аб перспектывах сацыяльных сетак, распавесці аб бліжэйшай будучыні прыехаў з Мінска да зацікаўленых у гэтай тэме глыбачан Франак Вячорка. Сам Франак з'яўляецца не толькі журналістам, але і выдатным экспертам і спецыялістам у гэтай галіне. Ён прасоўвае Радыё Свабода ў сацыяльных сетках, стварае розныя групы па інтэрэсах, напрыклад, для жанчын, для аматараў беларускай мовы, для аматараў гісторыі, аматараў кулінарыі і г.д. І ў кожнай з гэтых груп – тысячы ўдзельнікаў, якія знаходзяць тут аднадумцаў і абмяркоўваюць разам пэўную тэму.




Па словах Франака Вячоркі, хутка не будзе нічога! Ні газет, ні радыё, ні тэлебачання, ні сайтаў, а будуць толькі сацыяльныя сеткі. Сённяшняя журналістыка губляе прывабнасць, драбнее. Цяпер любы, хто мае смартфон, можа аператыўна змясціць фота, відэа, альбо навіну ў сацыяльных сетках. Месца журналістаў займаюць блогеры.

– Нашы журналісты (Радыё Свабода),– кажа Франак Вячорка, – усё суцяшаюць сябе, вераць, што людзі адумаюцца і ўсё вернецца на сваё месца: зноў людзі пачнуць слухаць радыё, чытаць газеты, праглядаць сайты. Не! Трэба навучыць сябе адвучыцца жыць мінулымі стэрэатыпамі. Важна зразумець, што мы жывём зусім у іншай рэчаіснасці. Інтэрнэт сайты па прагнозах сп. Вячоркі могуць зысці ў нябыт ужо гадоў праз пяць.



Сёння вельмі папулярныя блогеры, яны маюць больш ўплыў на масы, чым самыя вядомыя палітыкі. Людзі давяраюць ім, прыслухоўваюцца да іх меркаванняў, глядзяць іх відэаролікі праз сацыяльныя сеткі. Пакуль, на сёння, на Беларусі ёсць 3-5 аўтарытэтных блогераў і гэтая ніша яшчэ досыць вольная. Але пройдзе невялікі час, і гэтую нішу зоймуць тысячы блогераў і настане вялікая канкурэнцыя.

Яскравым прыкладам, як могуць паўплываць сацыяльныя сеткі на палітычную сітуацыю ў краіне, выступоўца назваў цяперашні выбарчы працэс на Украіне. Нібыта ўсім палітычным аналітыкам да пачатку выбарчай кампаніі было зразумела, што перамога – за Парашэнкам. І ніхто не дапускаў, што дзякуючы сацыяльным сеткам, блогерам нечакана фаварытам і з вялікім адрывам стане Зяленскі.

Аўтар гэтых радкоў не мог не задаць пытанне: "Вось, напрыклад, я, альбо нехта іншы, напісаў краязнаўчы матэрыял, яго апублікавалі ў газеце, газета будзе захоўвацца ў архіве, і гэтыя матэрыялы можна прачытаць і праз 100 гадоў. Што будзе далей, калі не будзе сайтаў, газет і г.д, а толькі сацыяльныя сеткі. Дзе будзе захоўвацца падобная інфармацыя?"

– Такое пытанне задаюць усе. Вось нядаўна Лявон Баршчэўскі выдаў кнігу накладам 300 паасобнікаў... А хто яе больш прачытае? У інтэрнэце ў лічбавым варыянце, праз сацыяльныя сеткі, прачыталі б мільёны! Усё будзе ў інтэрнэце захоўвацца ў лічбавым варыянце, прачытаюць каму цікава і праз 10, і праз 100 год!– адказаў Франак Вячорка.

# Экскурсія для людзей з абмежаванымі магчымасцямі прайшла ў Глыбокім

■ Зміцер Лупач,
тэкст і фота

**Яе правяла экскурсавод Вольга Пашковіч. Мерапрыемства адбылося ў рамках фэсту экскурсаводаў, які прайшоў у нашай краіне 13 красавіка.**

Экскурсія распачалася каля помніка Глыбоцкай вішні. Вольга не толькі распавядала пра глыбоцкія цікавосткі, але і пыталася пра гэта ў сваіх слухачоў. За правільныя і цікавыя адказы яны атрымлівалі адпаведную колькасць балаў.

Затым экскурсія перамясцілася на Цэнтральную плошчу горада да кампазіцыі, прысвечанай дружбе народаў. Якраз там размешчаны глыбоцкі "нулявы" кіламетр, ад якога вымяраюцца адлегласці да беларускіх гарадоў і сталіц суседніх краін. Потым экскурсанты наведалі скульптурную кампазіцыю "Сям'я", якая таксама знаходзіцца на гэтай плошчы.

Далей яны зрабілі пешую прагулку па ўзбярэжжы возера Кагальнага да таго месца, дзе месціцца рэзідэнцыя Вішнёвай каралевы і ўсталяваны бюст аграному Баляславу Лапыру. Гэта адна з самых нядаўніх скульптур у Глыбокім, усталяваная яна ў памяць чалавека, дзякуючы якому ў Глыбокім і стала магчымым правядзенне Вішнёвых фэстаў.



Пасля Вольга правяла іх да самалёта, які ўсталяваны насупраць першай школы. Гэта самалёт канструктарскага бюро імя Паўла Сухога, чыё імя носіць і школа, размешчаная насупраць. На процілеглым беразе, у парку Перамогі стаіць яшчэ адзін самалёт Сухога, куды экскурсанты таксама прайшлі пешкі па беразе возера Кагальнага. Там Вольга распавяла ім пра ўсе помнікі і кампазіцыі, што ўсталяваныя на тэрыторыі парка.



Вольга Пашковіч распавяла і пра тую старонку ў гісторыі горада, калі рака Бярозаўка дзяліла яго не толькі паміж двума ўладальнікамі, але і была мяжой двух ваяводстваў – Віленскага і Полацкага.

А закончылася экскурсія на Алеі знакамітых землякоў, што размешчаная на прыкасцельнай плошчы. Прычым Вольга не толькі сама распавядала пра знакамітых людзей Глыбоччыны, але і прапаноўвала людзям з абмежаванымі магчымасцямі самім распавесці пра іх. Было вельмі прыемна чуць, што пра гэтых людзей экскурсанты ведалі і шмат што маглі расказаць.

А напрыканцы экскурсіі быў падведзены вынік па колькасці балаў і вызначаныя пераможцы, якія атрымалі салодкія прызы. Трэба сказаць, што без падарункаў не засталіся і астатнія ўдзельнікі экскурсіі. А самае галоўнае, што на працягу гэтага мерапрыемства Вольга падаравала людзям цудоўны настрой і новыя веды па гісторыі Глыбокага.

Ідэя Фэсту экскурсаводаў нарадзілася ў Беларусі дзесяць гадоў таму, у 2009 годзе. Прымеркаваны ён да даты 18 красавіка, калі ва ўсім свеце адзначаецца Міжнародны дзень помнікаў і мясцінаў. Мэта такіх фэстаў – распавесці пра родныя мясціны самім жыхарам гэтых месцаў, каб выклікаць у іх любоў да роднай зямлі і яе гісторыі.

